

Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

# БЮЛЯТЭНЬ САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ САВЕЦКАЙ РЭСПУБЛІКІ

Выдаецца Інфармацыйна-Выдавецкім Бюро Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнай Нарады (г. Менск, Чырвонаармейская вул. № 3). — Падпісная плата на год 5 р. і на ½ г. 2 р. 50 к.

VII-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ

№ 20 (94) | 20 верасьня 1930 г. | № 20 (94)

## ЗЬМЕСТ.

**Абежнік Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў і Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР.**

**Паст. 161.** Пра парадак абскарджаньня пастаноў адміністрацыйных органаў аб накладаньні адміністрацыйных пакараньняў.

**Інструкцыя і пастановы Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР.**

**Паст. 162.** Пра парадак правядзеньня самаабкладаньня.

**Паст. 163.** Пра абкладаньне прамысловым падаткам у 1930/31 годзе па цьвёрдых стаўках 2-га разраду некаторых промыслаў, дзе праца вытвараецца пры дапамозе аднаго наёмнага рабочага, але бяз удзелу дарослых членаў сям'і.

**Паст. 164.** Аб прыцягненьні да прамысловага падатку ў процантных адносінах да звароту некаторых промыслаў, скупку тавараў і гандаль дрожджамі і некаторымі іншымі таварамі.

## Абежнік Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў і Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР.

### Паст. 161. Пра парадак абскарджаньня пастаноў адміністрацыйных органаў аб накладаньні адміністрацыйных пакараньняў.

*Усім Адміністрацыйным Аддзелам Раённых Выканаўчых Камітэтаў і Гарадзкіх Саветаў, Гарадзкім і Вучастковым Пракурорам.*

Да часу правядзеньня ў заканадаўчым парадку выкліканых ліквідацыяй акруг зьмен у пастанове ЦВК і СНК БССР за 17 мая 1928 г. „Пра парадак выданьня акруговымі і раённымі выканаўчымі камітэтамі і гарадзкімі саветамі абавязковых пастаноў і пра накладаньне адміністрацыйных пакараньняў за іх парушэньне“ народныя камісарыяты Унутраных Спраў і Юстыцыі БССР, у мэтах часовага ўстанаўленьня парадку абскарджаньня пастаноў адміністрацыйных органаў аб адміністрацыйных пакараньнях, пастанаўляюць:

1. Адміністрацыйныя пакараньні па пратаколах за нарушэньне абавязковых пастаноў накладаюць: а) на тэрыторыі сельскага або местачковага савету—прэзыдыум сельскага або местачковага савету і б) на тэрыторыі гарадоў—начальнік гарадзкога адміністрацыйнага аддзелу або адміністрацыйнага аддзелу раённага выканаўчага камітэту

Адміністрацыйныя пакараньні за парушэньні, пералічныя у пунктах „б" і „в" арт. 13 пастановы ЦВК і СНК БССР за 17 мая 1928 г. „Пра парадак выданьня акруговымі і раённымі выканаўчымі камітэтамі і гарадзкімі саветамі абавязковых пастаноў і пра накладаньне адміністрацыйных пакараньняў за іх парушэньне" (З. З. БССР 1929 г. № 11, п. 59) накладаюць:

а) у сельскіх мясьцовасьцях і на тэрыторыі местачковых саветаў—начальнік адміністрацыйнага аддзелу раённага выканаўчага камітэту;

б) у гарадох—начальнік гарадзкога адміністрацыйнага аддзелу альбо адміністрацыйнага аддзелу раённага выканаўчага камітэту.

2. Скаргі на пастановы аб накладаньні адміністрацыйных пакараньняў падаюцца:

а) у прэзыдыум раённага выканаўчага камітэту—на пастановы сельскіх і местачковых саветаў і начальніка адміністрацыйнага аддзелу раённага выканаўчага камітэту, і

б) у прэзыдыум гарадзкога савету—на пастановы начальніка гарадзкога адміністрацыйнага аддзелу.

3. Парадак падачы скарг і тэрміны іх падачы і разгляду, устаноўленыя артыкуламі 26—28 паказанай вышэй (п. 1) пастановы ЦВК і СНК БССР за 17/V-1928 г. не зьмяняюцца.

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР **Я. Кроль.**

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **Міхайлаў.**

7 верасьня 1930 г.
№ 73.

## Інструкцыя і пастановы Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР.

### Паст. 161. Пра парадак правядзеньня самаабкладаньня.

#### I. АГУЛЬНЫЯ ПРАВІЛЫ.

§ 1. Самаабкладаньне праводзіцца ва ўсіх сельскіх мясцовасьцях, мястэчках і сельскіх паселішчах, што знаходзяцца ў межах гарадоў.

§ 2. У самаабкладаньні ўдзельнічаюць: а) асобныя сялянскія гаспадаркі і гаспадаркі, якія зьяўляюцца членамі таварыстваў па супольнай апрацоўцы зямлі, у якіх неабагулены рабочая жывёла і інвэнтар; б) грамадзяне, стала пражываючыя ў даным паселішчы, хаця-б яны і ня вялі сельскай гаспадаркі.

Не прыцягваюцца да самаабкладаньня: а) савецкія гаспадаркі, у тым ліку гаспадаркі дзіцячых дамоў, сельска-гаспадарчых школ і г. д., б) калгасы, в) рабочыя, служачыя, у якіх крыніцай існаваньня зьяўляецца выключна заработная плата, г) члены камун, арцеляй і таварыстваў па супольнай апрацоўцы зямлі, у якіх абагулены рабочая жывёла і інвэнтар.

Увага 1. Калгасы могуць, калі яны гэтага пажадаюць, удзельнічаць у самаабкладаньні на падставах, паказаных Калгасцэнтрам СССР і Белкалгассаюзам.

Увага 2. Члены саматужна-прамысловых арцеляй, якія працуюць у агульных майстэрнях, сыравіну атрымоўваюць выключна з арцелі, прадукцыю цалкам здаюць свайму аб"яднаньню і ня ўдзельнічаюць у прыбытках арцелі, таксама, як і рабочыя і служачыя, ня удзельнічаюць у самаабкладаньні, калі крыніцай існаваньня ў іх зьяўляецца выключна зарплата.

§ 3. Самаабкладаньне дазваляецца на наступныя гаспадарчыя, культурна-асьветныя, санітарныя і дабрабытныя патрэбы насельніцтва

асобных паселішчаў, а таксама двох або некалькіх паселішчаў, аб"яднаных адным або рознымі сельскімі саветамі;

а) на арганізацыю, ўтрыманьне і абслугоўваньне (будаваньне новых, дабудаваньне няскончаных, пашырэньне, найманьне, капітальны і бягучы рамонт будынкаў, абсталяваньне, апал і асьвятленьне) гаспадарчых, культурна-асьветных і санітарных устаноў мясцовага грамадзкага значэньня: школ, хат-чытальняў, клюбаў, чырвоных куткоў, дзіцячых дамоў, ясьляў і пляцовак, больніц, доктарскіх, фэльчарскіх, вэтэрынарных і агранамічных пунктаў, дамоў для інвалідаў і для састарэлых, лазьняў і хлебазапасных магазынаў; б) на правядзеньне новых, утрыманьне і рамонт існуючых дарог, мастоў, грэбляў, перапраў і перавозаў, што маюць мясцовае сельскае грамадзкае значэньне;

в) на ўпарадкаваньне паселішчаў: капаньне і ўтрыманьне ў парадку студняў, грамадзкіх саджалак, пляцоў-могільнікаў для жывёлы, плошчаў грамадзкага карыстаньня (выганаў, лугоў), а таксама на ўтрыманьне палявых вартаўнікоў;

г) на супроцьпажарныя мерапрыемствы: будаваньне, капітальны і бягучы рамонт і гаспадарчае ўтрыманьне пажарных дэпо і на набыцьцё і ўтрыманьне супроцьпажарных машын і пажарных прыладаў і на ўтрыманьне пажарных вартаўнікоў;

д) на правядзеньне лесакультурных работ у лясох мясцовага значэньня, на дрэванасаджэньне па шляхох мясцовага значэньня, на зялёныя насаджэньні вакол грамадзкіх будынкаў;

е) на набыцьцё і рамонт сельска-гаспадарчых машын, на набыцьцё і ўтрыманьне заводзкай жывёлы грамадзкага карыстаньня;

§ 4. Забараняецца самаабкладаньне на пакрыцьцё адміністрацыйных выдаткаў, як-та: на выплату заработнай платы работнікам мясцовых органаў улады, на ўтрыманьне і абсталяваньне для іх памяшканьняў і аплату іх выдаткаў, а таксама на выплату заработнай платы работнікам мясцовых культурных і гаспадарчых устаноў і г. д.

§ 5. Агульны разьмер самаабкладаньня ня можа перавышаць 50 проц. наступных сум:

а) для кожнага платніка сельска-гаспадарчага падатку—акладу сельска-гаспадарчага падатку, які належыць з яго ў даным акладным годзе пасьля скідак і льгот, зробленых да часу самаабкладаньня;

б) для кожнага платніка падаходнага падатку, а таксама вызваленага ад падаходнага падатку па неабкладаемаму мінімуму—акладу сельска-гаспадарчага падатку, які быў-бы налічаны, калі-б яго даход абкладаўся ў такіх самых частках і па тых самых стаўках, якія ўстаноўлены для сельска-гаспадарчага падатку на 1930-31 год;

в) для кожнага платніка сельска-гаспадарчага падатку, вызваленага цалкам ад падатку па маламоцнасьці,—з акладу 2 руб. падатку;

г) для кожнага платніка, вызваленага цалкам ад сельска-гаспадарчага падатку па іншых прычынах,—палавіны налічанага на яго акладу сельска-гаспадарчага падатку.

Калі для ажыцьцяўленьня намечаных мерапрыемстваў паказаны разьмер самаабкладаньня недастатковы, агульны сход грамадзян можа ўстанавіць разьмер самаабкладаньня ў межах да 100 проц. паказаных вышэй разьмераў падатку. Такое падвышэньне самаабкладаньня патрабуе асобнага зацьверджаньня райвыканкому.

Увага. Калі агульны сход грамадзян данага паселішча прыняў пастанову пра пабудаваньне школы з пазыкай на гэта срадкаў з пазычковага школьна-будаўнічага фонду і патрэбная сума пазычкі дазволена раённым выканаўчым камітэтам, дык сума,

выплачваемая насельніцтвам кожны год на будаваньне гэтае школы і на выплату зробленай пазычкі, улічваецца ў агульную гранічную суму самаабкладаньня па даным паселішчы.

§ 6. Самаабкладаньне дазваляецца ў форме грашовых і натуральных уносаў і працоўнага ўдзелу, а таксама ў мяшанай форме (часткай—грашыма або натурай, а часткай—працоўным удзелам). Але ў кожным разе агульны разьмер самаабкладаньня вызначаецца ў грашовай форме, для чаго загадзя падлічваюцца кошт натуральнай і працоўнай частак.

§ 7. Натуральныя ўносы самаабкладаньня (напрыклад, збожжа, будаўнічыя матарыялы) дазваляюцца толькі ў выключных выпадках і з тэй абавязковай умовай, што іх можна або неадкладна рэалізаваць на грошы, або скарыстаць на мэты самаабкладаньня (напрыклад, будаўнічыя матарыялы на будаваньне школы). Прадукты, што хутка псуюцца, як уносы самаабкладаньня, не павінны брацца.

§ 8. Працоўны ўдзел у самаабкладаньні дазваляецца толькі тады, калі ён можа быць скарыстаны беспасрэдна на мэты самаабкладаньня, напрыклад, падвоз будаўнічых матарыялаў на будаваньне школы або ўдзел у будаваньні яе ўласнай працай і. г. д.

## II. ПАРАДАК УСТАНАЎЛЕНЬНЯ САМААБКЛАДАНЬНЯ.

§ 9. Пытаньне аб устанаўленьні самаабкладаньня можа быць вынесена на абгаварэньне агульнага сходу грамадзян сельскім (местачковым) саветам як па ўласнай ініцыятыве, так і па заявах грамадзкіх арганізацый, праўленьняў калгасаў, груп грамадзян і асобных грамадзян.

§ 10. Перад вынясеньнем на абгаварэньне агульнага сходу пытаньня пра самаабкладаньне, сельскі (местачковы) савет павінен пры ўдзеле беднаты, батрацтва і актыву вёскі, намеціць мерапрыемствы, якія павінны быць праведзены за кошт самаабкладаньня, скласьці папярэдні каштарыс гэтага мерапрыемства і далажыць яго агульнаму сходу. Пры намечаньні мерапрыемстваў трэба дасканала абмеркаваць: а) наколькі намечаныя мерапрыемствы патрэбны ў даным паселішчы і карысны для насельніцтва; б) ці можна іх выканаць тымі тэхнічнымі прыладамі, матарыяламі і іншымі рэчамі, якія ёсьць; в) ці хопіць на гэтыя мэты вызначаных сум самаабкладаньня. Толькі пасьля гэтага папярэдняга абмеркаваньня пытаньне ставіцца на вырашэньне чарговага або спэцыяльнага агульнага сходу.

Увага 1. Калі самаабкладаньне прапануецца на якое-небудзь складанае мерапрыемства (напрыклад, на будаваньне школы), раённыя выканаўчыя камітэты павінны дапамагаць сельскім (местачковым) саветам у справе складаньня папярэдніх каштарысаў, а па найбольш складаных мерапрыемствах даручыць гэта сваім тэхнічным працаўнікам.

Увага 2. Мерапрыемствы па абслугоўваньні некалькіх паселішчаў, не аб'яднаных адным сельскім саветам, намячаюцца райвыканкомамі.

§ 11. Пытаньне самаабкладаньня вырашаецца агульным сходам грамадзян данага паселішча, прыцягваемых да самаабкладаньня, якія маюць выбарныя правы. Члены камун, арцеляў і таварыстваў па супольнай апрацоўцы зямлі, у якіх абагулены рабочая жывёла і інвэнтар, а таксама рабочыя, служачыя і члены саматужна-прамысловых арцеляй з паказаных ў § 2 гэтай інструкцыі, у якіх крыніцай існаваньня зьяўляецца выключна заработная плата, у рашэньні агульных

сходаў адзінаасобнікаў удзелу ня прымаюць. У буйных паселішчах пытаньне пра самаабкладаньне можа быць вырашана на сходах грамадзян асобных вучасткаў, кварталаў і г. д.

Для правадзейнасьці агульнага сходу, што вырашае пытаньне пра самаабкладаньне, патрэбна, каб прысутнічала ня менш паловы агульнага ліку грамадзян, прыцягваемых да самаабкладаньня, якія маюць выбарныя правы. Калі з прычыны невыкананьня гэтай ўмовы, першы сход не адбыўся, дык не пазьней, як праз тыдзень склікаецца другі агульны сход. Для правадзейнасьці гэтага сходу і наступных сходаў, што вырашаюць пытаньні самаабкладаньня, патрэбна прысутнасьць ня менш $^{1}/_{3}$ грамадзян, якія прыцягваюцца да самаабкладаньня і маюць выбарныя правы.

Пры вызначэньні правадзейнасьці сходу бяруцца пад увагу толькі грамадзяне, прыцягваемыя да самаабкладаньня, не пазбаўленыя выбарных правоў.

§ 12. Агульны сход павінен вырашыць наступныя пытаньні: а) мэты самаабкладаньня; б) агульны разьмер яго ў перакладзе на грошы; в) форму самаабкладаньня (грашыма, ці натурай, ці працай, ці мяшаную формай); г) якія гаспадаркі і асобы вызваліць ад самаабкладаньня; д) тэрміны ўносаў самаабкладаньня. Гэтыя тэрміны вызначаюцца паводле пляну работ па самаабкладаньні і ня могуць перавышаць 2-х месяцаў, лічачы з дня пастановы агульнага сходу.

Увага. Кулацкія гаспадаркі, абкладзеныя індывідуальна, павінны заплаціць усю належачую з іх суму самаабкладаньня ў 7-мі дзённы тэрмін з дня паведамленьня ім вынікаў раскладкі.

§ 13. Усе пытаньні самаабкладаньня вырашаюцца на агульным сходзе простай большасьцю галасоў тых грамадзян, якія прыцягваюцца да самаабкладаньня і маюць выбарныя правы. Вырашаныя пытаньні запісваюцца ў пастанове агульнага сходу, якая падпісваецца Прэзыдыумам сходу.

§ 14. У протаколе агульнага сходу абавязкова запісваюцца: а) агульная лічба грамадзян данага паселішча, якія прыцягваюцца да самаабкладаньня і маюць выбарныя правы; б) колькі з іх прысутнічала на сходзе; в) колькі галасавала за і супроць самаабкладаньня.

§ 15. Калі трэба задаволіць агульную патрэбу двох або некалькіх паселішчаў, дык пытаньне аб устанаўленьні самаабкладаньня можа вырашацца і на агульных сходах грамадзян кожнага паселішча паасобку і на аб'яднаным агульным сходзе грамадзян усіх зацікаўленых паселішчаў, з тым, каб на гэтым агульным сходзе прысутнічала ня менш паловы агульнага ліку грамадзян (а пры паўторных сходах — ня менш $^{1}/_{3}$ грамадзян), якія карыстаюцца выбарнымі правамі і прыцягваюцца да самаабкладаньня, з кожнага зацікаўленага паселішча.

§ 16. Калі самаабкладаньне на агульную патрэбу двох або некалькіх паселішчаў абгаварваецца на асобным сходзе кожнага з іх, або калі ў буйным паселішчы склікаюцца сходы па асобных вучастках або кварталах, дык пытаньне пра правядзеньне самаабкладаньня вырашаецца па агульнай колькасьці галасоў за і супроць на ўсіх сходах разам.

Увага. Калі на асобных сходах былі прыняты розныя проценты самаабкладаньня, пры чым пры падліку агульнай колькасьці галасоў атрымліваецца, што большасьць галасоў выказалася за меншы процант, дык для паселішча, прыняўшага большы процант, гэты меншы процант не зьяўляецца абавязковым.

*Прыклад I.* Пытаньне аб пабудаваньні аднае школы абгаварвалася на асобных сходах 3-х паселішчаў (або кварталаў буйнага паселішча). У выніку галасаваньня выказалася:

| | За | Супроць: |
|---|---|---|
| У першым паселішчы (або квартале) . . . . . . | 80 | 100 |
| У другім „ „ . . . . . | 70 | 90 |
| У трэцім „ . . . . . . | 150 | 50 |
| Разам: | 300 гр. | 240 гр. |

Самаабкладаньне на будаваньне школы прынята і лічыцца абавязковым для ўсіх трох паселішчаў (або кварталаў).

*Прыклад II.* Пытаньне аб пабудаваньні вэтэрынарнага пункту абгаварвалася і прынята на асобных сходах 4-х паселішчаў (або кварталаў аднаго буйнага паселішча), пры чым галасавалі за самаабкладаньне ў наступным процанце да сумы падатку:

| | За 30% | За 40% | За 50% |
|---|---|---|---|
| У першым паселішчы (або квартале) . . . . . . | 20 гр. | 50 гр. | 30 гр. |
| У другім „ . . . . . . | 10 „ | 80 „ | 50 „ |
| У трэцім „ . . . . . . | 50 „ | 50 „ | 100 „ |
| У чацьвёртым . . . . . . | 30 „ | 50 „ | 200 „ |
| Разам: | 110 гр. | 230 гр. | 380 гр. |

Лічыцца абавязковым для ўсіх зацікаўленых паселішчаў (або кварталаў) самаабкладаньне на 50 проц.

*Прыклад III.* Пытаньне пра пабудову фэльчарскага пункту абгаварвалася і прынята на асобных сходах 3-х паселішчаў (або кварталаў аднаго буйнага паселішча). Пры чым галасавалі за самаабкладаньне ў наступным процанце да сумы падатку.

| | За 30% | За 40% | За 50% |
|---|---|---|---|
| У першым паселішчы, (або квартале) . . . . . . | 50 гр. | 100 гр. | 30 гр. |
| У другім . . . . . . . . | 50 „ | 30 „ | 40 „ |
| У трэцім . . . . . . . . | 30 „ | 70 „ | 100 „ |
| Разам: | 130 „ | 200 „ | 170 „ |

Лічыцца абавязковым для ўсіх трох зацікаўленых паселішчаў (або кварталаў) 40 проц. самаабкладаньня, але паколькі трэцяе паселішча прыняла самаабкладаньне на 50 проц., дык для яго і захоўваецца гэты разьмер саамаабкладаньня (50 проц.).

§ 17. Агульны сход можа прыняць самаабкладаньне на патрэбы, якія нельга задаволіць за 1 год, ня выходзячы з гранічных разьмераў самаабкладаньня. У такім выпадку пастанова аб самаабкладаньні дзейнічае і на будучы час і ня можа быць скасавана, пакуль ня будзе задаволена гэта самаабкладаньне. Але для данага году агульная сума самаабкладаньня ня можа перавышаць гранічнага разьмеру паказанага ў § 5 гэтай Інструкцыі, і вызначаецца сходам з разьлікам, каб гранічны разьмер самаабкладаньня ня быў парушаны і каб у вызначаны тэрмін мэта самаабкладаньня была выканана.

Пастанова агульнага сходу пра самаабкладаньне больш як на адзін год набывае моц толькі пасьля зацьверджаньня яе раённым выканаўчым камітэтам, якому пастанова падаецца сельскім (мястэчковым) саветам з заключэньнем апошняга.

Увага. Калі самаабкладаньне прынята на 2 альбо некалькі год, дык у пастанове агульнага сходу паказваецца, на колькі год разьлічана самаабкладаньне і колькі трэба сабраць у бягучым годзе.

*Прыклад I.* Гранічны разьмер самаабкладаньня ў даным паселішчы складае 3.000 руб. Сход прыняў самаабкладаньне на будаваньне больніцы на 5.000 руб. на працягу 2-х год. Пастанова гэта дзейнічае да таго часу, пакуль больніца ня будзе пабудавана, але для данага году на будаваньне больніцы можа быць сабрана толькі 3.000 руб.

*Прыклад II.* Гранічны разьмер самаабкладаньньня па даным паселішчы складае—1.000 руб. Сход прыняў пастанову пабудаваць школу на 5.000 руб., з тым, каб 1.000 руб. унесьці сёлета; рэшту пазычае раённы выканаўчы камітэт з школьна-будаўнічага фонду. Пазыка гэтая павінна быць выплачана такім чынам, каб кожны год зьбіралася сума ня звыш гранічных разьмераў самаабкладаньня, паказаных у § 5 і каб у тэрмін, устаноўлены РВК уся сума пазычкі была пакрыта.

### III. РАСКЛАДКА САМААБКЛАДАНЬНЯ.

§ 18. Не пазьней 3-х дзён з дня атрыманьня пастановы агульнага сходу грамадзян паселішча аб самаабкладаньні, сельскі (местачковы) савет, з удзелам прадстаўніка камітэту ўзаемадапамогі, робіць раскладку агульнай сумы самаабкладаньня паміж асобных гаспадарак і грамадзян данага паселішча.

§ 19. Сума самаабкладаньня раскладаецца паміж: а) асобных сялянскіх гаспадарак і гаспадарак, якія зьяўляюцца членамі таварystваў па супольнай апрацоўцы зямлі, ў якіх не абагулены рабочая жывёла і інвэнтар, б) платнікаў падаходнага падатку і вызваленых ад яго па неабкладаемаму мінімуму (апроч вызваленых ад самаабкладаньня, паводле § 2 гэтай інструкцыі).

§ 20. Гаспадаркі і асобы з розных катэгорый насельніцтва ўплачваюць наступныя разьмеры самаабкладаньня:

а) сялянскія гаспадаркі, якія плацяць сельска-гаспадарчы падатак, уплачваюць самаабкладаньне ў процанце, прынятым агульным сходам грамадзян, з сумы сельска-гаспадарчага падатку, належачага з іх пасьля ўсіх скідак і льгот, зробленых да часу раскладкі;

б) гаспадаркі, вызваленыя цалкам ад сельска-гаспадарчага падатку па маламоцнасьці (па неабкладаемаму мінімуму, або па пастанове Падатковай Камісіі), уплачваюць самаабкладаньне ў процанце, прынятым агульным сходам грамадзян і выходзячы з 2 р. акладу падатку;

в) гаспадаркі, вызваленыя цалкам ад сельска-гаспадарчага падатку па іншых ільготах, уплачваюць самаабкладаньне ў процанце, прынятым агульным сходам грамадзян з палавіны налічаных на іх акладаў сельска-гаспадарчага падатку;

г) платнікі падаходнага падатку, а таксама вызваленыя ад падаходнага падатку па неабкладаемаму мінімуму, уплачваюць самаабкладаньне ў процанце, прынятым агульным сходам грамадзян з сумы сельска-гаспадарчага падатку, якая была-б налічана на іх, калі-б іх даход абкладаўся ў тых-жа частках і па тых-жа стаўках, якія ўстаноўлены для сельска-гаспадарчага падатку.

Увага 1. Сумы самаабкладаньня для асоб, паказаных у літ. „г“, вылічваюцца па даходу гэтых асоб, якія абкладзены падаходным падаткам 1929-30 г. або вызвалены па неабкладаемаму мінімуму, г. зн. па даходу за 1928-29 аперацыйны год. Калі-ж будзе вылічаны для абкладаньня падаходным падаткам 1930-31 г.

даход гэтых асоб за 1929-1930 аперацыйны год, дык робіцца новы разрахунак самаабкладаньня, пры чым, лішак спагнаных сум зварочваецца, а недабраная частка спаганяецца дадаткова.

Увага 2. Калі асоба, якая плаціла падаходны падатак 1929-30 г., страціла гэтую крыніцу даходу і ня будзе плаціць падаходнага падатку 1930-31 г., дык самаабкладаньне для гэтай асобы вылічваецца паводле правілаў, устаноўленых для тэй катэгорыі насельніцтва, ў якую перайшла гэтая асоба.

Увага 3. Пры вылічэньні разьмеру самабклааданьня 50 і больш кап. падатку лічацца за поўны рубель, а менш—зусім ня лічыцца.

### ПРЫКЛАДЫ РАСКЛАДКІ САМААБКЛАДАНЬНЯ.

У вёсцы Сялец самаабкладаньне прынята ў разьмеры 50 проц. падатку.

1. Селяніну Шымчанку налічана 40 р. сельска-гаспадарчага падатку, але зьнята па льгоце 10 р. і застаецца плаціць 30 р. Самаабкладаньне з яго складае 50 проц. з 30 р., г. зн.—15 р.

2. Селянін Бельскі вызвален ад сельска-гаспадарчага падатку па маламоцнасьці. Ён плаціць самаабкладаньне, выходзячы з 2 руб. акладу падатку. Самаабкладаньне з яго складае 50 проц. з 2 р., г. зн.—1 руб.

3. Селяніну Кучмелю было налічана сельска-гаспадарчага падатку 20 р., але ўся гэтае сума зьнята з прычыны перасяленьня на новае месца. Гр-н Кучмель плаціць самаабкладаньне, выходзячы з палавіны налічанага на яго акладу падатку, г. зн. з 10 руб., што складае 5 руб. (50 проц. ад 10 руб).

4. Гандляр Шляхцёнак меў ў 1928-29 г. даходу 1.000 р. і гэтая сума была абкладзена падаходным падаткам 1929-30 г. Шляхцёнак, калі-б яго даход абкладаўся сельска-гаспадарчым падаткам, плаціў-бы падатак у індывідуальным парадку і з 1.000 р. даходу ён плаціў-бы 280 р. сельска-гаспадарчага падатку. Значыцца, Шляхцёнак павінен заплаціць самаабкладаньня 50 проц. з 280 р., г. зн. 140 р. Гэтая сума лічыцца авансам. Калі даход Шляхцёнка пры абкладаньні падаходным падаткам 1930-31 г. павялічыцца або паменшыцца, дык сума самаабкладаньня павінна быць вылічана нанава і розьніца будзе альбо дадаткова спагнана з Шляхцёнка, альбо зьвернута яму.

5. Саматужнік Санчук, які не карыстаецца нанятай рабсілай, меў ў 1928-29 г. 1.000 р. даходу і плаціў з гэтай сумы падаходны падатак 1929-30 г. Пры абкладаньні сельска-гаспадарчым падаткам даход Санчука быў-бы прыцягнут да абкладаньня ў разьмеры 50 проц., альбо 500 р. Пры 6 едаках у сям'і Санчука сельска-гаспадарчы падатак склаў-бы 59 р. 75 к. Значыцца, ён павінен плаціць самаабкладаньне з 59 р. 75 к., г. зн. 29 р. 88 к. Гэтая сума лічыцца авансам і будзе потым вылічана нанава, калі даход Санчука пры абкладаньні падаходным падаткам на 1930-31 г. зьменіцца.

6. Дробны гандляр Шабуневіч, вызвалены ў 1929-30 г. ад падаходнага падатку па неабкладаемаму мінімуму, таму што ўстаноўлены яго даход за 1928-29 г. складае толькі 480 р. Пры абкладаньні сельска-гаспадарчым падаткам ён плаціў-бы падатак, як гандляр, у індывідуальным парадку, даход яго быў-бы абкладзены ў разьмеры 100 проц. і падатак складаў-бы 96 руб. Самаабкладаньня ён павінен плаціць 50 проц. з 96 р., або 48 р. Гэтая сума лічыцца авансам і будзе потым зьменена, калі даход Шабуневіча пры абкладаньні падаходным падаткам на 1930-31 г. зьменіцца.

7. Саматужнік Бацяноўскі, які не карыстаецца нанятай рабсілай, у 1929-30 г. вызвален ад падаходнага падатку па неабкладаемаму мінімуму таму, што яго даход за 1928-29 г. складаў толькі 400 р. Калі-б ён абкладаўся сельска-гаспадарчым падаткам, дык яго даход быў-бы прыцягнут да абкладаньня ў разьмеры 50 проц. і пры 5 едакох сям'і ён плаціў-бы 6 р. 25 к. падатку. Самаабкладаньня ён павінен плаціць 50 проц. з 6 р. 25 к., г. зн. 3 р. 13 к. Гэтая сума лічыцца авансам і будзе потым зьменена, калі даход Бацяноўскага пры абкладаньні падаходным падаткам на 1930-31 г. зьменіцца.

8. Член саматужна-прамысловай арцелі, што ўваходзіць у каперацыйную сыстэму, Кляўко, які ўдзельнічае ў прыбытках арцелі і не карыстаецца нанятай працай, абкладзены падаходным падаткам 1929-30 г. выходзячы з 800 руб. даходу, атрыманага ў 1928-29 г. Калі-бы ён абкладаўся сельска-гаспадарчым падаткам, дык яго даход прыцягваўся-б да абкладаньня ў разьмеры 50 проц., г. зн. 400 р., а за вылікам 25 проц. скідкі, прадугледжанай § 58 Інструкцыі пра сельска-гаспадарчы падатак, г. зн. з 400 р. 100 р., застаецца 300 руб. абкладаемага даходу; пры 5 едакох у гаспадарцы Кляўко ён плаціў бы 18 р. 75 кап. падатку. Самаабкладаньня ён павінен плаціць 50 проц. з 18 р. 75 коп., г. зн. 9 р. 38 кап. Гэтая сума лічыцца авансам і будзе зьменена, калі яго даход зьменіцца пры абкладаньні падаходным падаткам на 1930-31 год.

§ 21. Агульны сход грамадзян данага паселішча, а таксама пленум сельскага (местачковага) савету маюць права вызваляць ад удзелу ў самаабкладаньні асобныя гаспадаркі і асоб з ліку памянёных у літ. літ. „б“ і „в“ § 20 гэтае Інструкцыі, а таксама гаспадаркі вайскоўцаў, інвалідаў вайны і працы і был. чырвоных партызан.

§ 22. Асобы, якія маюць крыніцы даходу ў розных мясцовасьцях або стала жывуць у адным месцы, а крыніцы даходу маюць у другім месцы, прыцягваюцца да самаабкладаньня ў кожнай з гэтых мясцовасьцяй, але з тым, каб агульная сума самаабкладаньня з данай асобы не перавышала той, якая належыць, паводле § 20 гэтай інструкцыі і гранічнага разьмеру самаабкладаньня, паказанага ў § 5 гэтай Інструкцыі.

§ 23. Сельскі (местачковы) савет мае права, на падставе хадайніцтва паасобных грамадзян, дазволіць ім замену вызначанай агульным сходам формы самаабкладаньня іншай формай, напрыклад, грашовыя ўносы замяніць працоўным ўдзелам.

§ 24. Пры замене грашовых уносаў працоўным удзелам трэба браць пад увагу інтарэсы заняпалых груп насельніцтва і кіравацца:

а) пастановай агульнага сходу аб мэтах і формах самаабкладаньня і патрэбай у грошах і ў працы для ажыцьцяўленьня гэтых мэтаў;

б) заяўкамі паасобных грамадзян, пры чым, калі на тую або іншую форму ўдзелу ў самаабкладаньні заявак больш, чым патрэбна, дык у першую чаргу працоўная форма самаабкладаньня дазваляецца менш платаздольным гаспадаркам. Далейшыя зьмены вызначанай грашовай формы працаю дазваляюцца толькі ў выключных выпадках у дачыненьні да паасобных незаможных гаспадарак і з поўным захаваньнем інтарэсаў мэты самаабкладаньня.

§ 25. Раскладка самаабкладаньня не пазьней як праз тры дні з дня зацьверджаньня яе сельскім (местачковым) саветам абвяшчаецца насельніцтву. Апроч таго, спіс з раскладкай самаабкладаньня вывешваецца саветам да агульнага ведама на відным месцы.

Грамадзянам, у якіх ёсьць якія-небудзь непаразуменьні, сельскі (местачковы) савет павінен даць вычарпальныя тлумачэньні аб спосабах і падставах раскладкі.

§ 26. На працягу 2-х тыдняў з дня абвяшчэньня раскладкі зацікаўленыя грамадзяне маюць права падаць у сельскі (местачковы) савет скаргу на пастановы аб самаабкладаньні наогул, а таксама аб раскладцы. Скаргі павінны быць разгледжаны сельскім (местачковым) саветам у тыднёвы тэрмін.

§ 27. Сельскі (местачковы) савет, адхіліўшы скаргу, павінен паведаміць асобу, якая падала скаргу, аб падставе адхіленьня. На паказаную пастанову могуць падавацца скаргі ў раённы выканаўчы камітэт, пастанова якога зьяўляецца канчатковай. Падача скаргі не прыпыняе пастановы аб самаабкладаньні.

У сельскіх паселішчах гарадзкой мяжы гарадоў Менску, Віцебску і Гомелю пастановы гарсаветаў па скаргах зьяўляюцца канчатковымі.

§ 28. Калі пастанова аб задавальненьні скаргі была вынесена пасьля ўплаты належнай сумы самаабкладаньня, дык пераплачаная сума павінна быць зьвернута.

§ 29. Сельскі (местачковы) савет не пазьней 7 дзён з дня зацьверджаньня раскладкі, накіроўвае ў раённы выканаўчы камітэт пастанову агульнага сходу грамадзян аб самаабкладаньні разам з копіяй зробленай раскладкі.

§ 30. Раённы выканаўчы камітэт павінен скасаваць пастанову сходу грамадзян аб самаабкладаньні ў наступных выпадках:

а) калі агульны сход грамадзян, які прыняў пастанову аб самаабкладаньні, ня меў законнай сілы, або калі была парушана гэта інструкцыя;

б) калі мерапрыемствы, для ажыцьцяўленьня якіх прынята самаабкладаньне, непрадугледжаны гэтай інструкцыяй;

в) калі перавышан для данага паселішча гранічны разьмер самаабкладаньня, дазволены законам;

§ 31. Калі няправільна ўстаноўлена раскладка, дык раённы выканаўчы камітэт павінен, незалежна ад таго, ці ёсьць скаргі на раскладку, ці не, зрабіць у іх патрэбныя зьмены.

§ 32. Калі на працягу 10 дзён з дня падачы сельскім (местачковым) саветам у раённы выканаўчы камітэт пастановы агульнага сходу грамадзян аб самаабкладаньні, яна ня будзе скасавана раённым выканаўчым камітэтам, а таксама калі раённы выканаўчы камітэт ня зробіць у раскладцы зьмен, дык пастанова аб самаабкладаньні і раскладка лічацца зацьверджанымі і зьяўляюцца абавязковымі для ўсіх грамадзян данага паселішча.

## IV. АБАВЯЗКІ СЕЛЬСКІХ І МЕСТАЧКОВЫХ САВЕТАЎ І РАЁННЫХ ВЫКАНАЎЧЫХ КАМІТЕТАЎ.

§ 33. Пасьля вынясеньня пастановы аб самаабкладаньні на сельскі (местачковы) савет ускладаюцца наступныя абавязкі:

а) устанаўленьне тэрміну зьяўленьня грамадзян для працоўнага ўдзелу, у адпаведнасьці з пастановай агульнага сходу аб самаабкладаньні;

б) збор, захаваньне і падлік сродкаў і матарыялаў, якія паступаюць у парадку самаабкладаньня;

в) вядзеньне патрэбных закупак, заключэньне дагавораў, паводле пастановы агульнага сходу, у адпаведнасьці з чыннымі законамі і арганізацыя будаўнічых работ;

г) кіраваньне ўсімі работамі, якія вядуцца ў парадку працоўнага ўдзелу, разьмеркаваньне паасобных абавязкаў паміж грамадзянамі,

назначэньне кіраўнікоў работ, падлік зьяўленьня на працу і зробленай працы;

д) распараджэньне ўсёй маемасьцю, якая набываецца за кошт самаабкладаньня, а таксама і грамадзкімі капіталамі, якія складаюцца ў парадку самаабкладаньня.

Увага. Калі самаабкладаньне ўстаноўлена для агульных патрэб некалькіх паселішчаў, аб'яднаных рознымі сельскімі саветамі, дык сродкі выдаткоўваюцца адпаведнымі сельсаветамі па паказаньнях райвыканкому, а распараджэньне маемасьцю і кіраваньне работамі робіцца тым сельсаветам, на які гэта ўскладзена райвыканкомам.

§ 34. Атрыманыя ў парадку самаабкладаньня грошы абавязкова захоўваюцца ў тэй касавай установе, дзе захоўваюцца бюджэтныя сродкі сельсавету, і выбіраюцца з ея толькі тады, калі спатрэбяцца. Забараняецца пазычаць гэтыя грошы якім-небудзь установам або асобам.

Увага. Забараняецца з сродкаў самаабкладаньня аплачваць працу службовых асоб райвыканкомаў і сельсаветаў, зьвязаную з самаабкладаньнем.

§ 35. Нядоімкі па самаабкладаньні спаганяюцца сельскім (мястачковым) саветам у адміністрацыйным парадку, які ўстаноўлены для спагнаньня сельска-гаспадарчага падатку.

Увага. Пасьля сканчэньня тэрміну ўносаў самаабкладаньня, вызначанага агульным сходам, на нядоімку налічаецца пеня ў агульным парадку, вызначаным для нядоімак сельска-гаспадарчага падатку.

§ 36. Калі ў вызначаны тэрмін ня будзе выканана насельніцтвам самаабкладаньне працоўным удзелам, дык яно спаганяецца грашыма, паводле § 35 гэтай Інструкцыі.

Увага. Працоўная форма ўносаў самаабкладаньня пералічаецца на грошы, паводле мясцовых даведачных цэн. Гэтыя цэны вызначае раённы выканаўчы камітэт і пераглядае ня менш аднаго разу ў два месяцы. Цэны вызначаюцца на работы розных кваліфікацый і спэцыяльнасьцяй, з удзелам цягавай конскай сілы, або без яе.

§ 37. Сродкі, сабраныя ў парадку самаабкладаньня, ўключаюцца ў бюджэт сельскага савету. Гэта робіцца і ў тых выпадках, калі самаабкладаньне прынята на агульную мэту некалькімі паселішчамі розных сельсаветаў. У выдатковай частцы бюджэту дакладна паказваюцца мэты, на якія, паводле пастановы агульных сходаў, накіроўваюцца гэтыя сродкі.

§ 38. Сродкі, атрыманыя ў парадку самаабкладаньня, могуць выдаткоўвацца толькі на тыя мэты, якія вызначаны ў адпаведнай пастанове агульнага сходу грамадзян. За парушэньне гэтага правіла вінаватыя прыцягваюцца да крымінальнай адказнасьці.

§ 39. Сродкі самаабкладаньня, не скарыстаныя ў даным годзе, уключаюцца ў сельскі бюджэт на наступны год і выдаткоўваюцца выключна на мэты, паказаныя ў пастановах агульнага сходу.

§ 40. Сельскі (мястачковы) савет дае агульнаму сходу справаздачу аб выдаткаваньні сродкаў, атрыманых у парадку самаабкладаньня, а таксама аб вядзеньні работ у парадку працоўнага ўдзелу грамадзян.

Увага 1. Справаздачу аб работах, зробленых за кошт самаабкладаньня, сельскі (мястачковы) савет дае агульнаму сходу не пазьней, як праз месяц пасьля сканчэньня работ па даным самаабкладаньні, а ў канцы бюджэтнага году—аб выніках усяго самаабкладаньня.

Увага 2. Калі ажыцьцяўленьне мэты самаабкладаньня патрабуе доўгага часу, дык справаздача робіцца не пазьней, як праз тры месяцы. Садакладчыкам савету аб выніках самаабкладаньня зьяўляецца рэвізійныя камісія.

§ 41. Кантроль за правільным і своечасовым выдаткаваньнем сродкаў самаабкладаньня ўскладаецца на сельскія і раённыя рэвізійныя камісіі.

§ 42. Агульны нагляд за вядзеньнем самаабкладаньня ўскладаецца на раённыя выканаўчыя камітэты, якія павінны складаць раённыя пляны правядзеньня самаабкладаньня.

§ 43. Нагляд за будаўніцтвам, якое праводзіцца на сродкі самаабкладаньня, ускладаецца на раённыя выканаўчыя камітэты. Пры чым, на народныя камісарыяты Асьветы, Аховы Здароўя, Земляробства і Унутраных Спраў і на Белдартранс ускладзены абавязкі па аказаньні тэхнічнай дапамогі будаўніцтву, забясьпечаньне будаўніцтва будаўнічымі матарыяламі і ўключэньне ў свае пляны забясьпечаньня будаўніцтва дэфіцытнымі матарыяламі.

§ 44. Для поўнага выкананьня з посьпехам самаабкладаньня сельскія (местачковыя) саветы павінны забясьпечыць актыўны ўдзел у растлумачальнай працы па самаабкладаньню батрацтва, беднаты, калгасьнікаў і грамадзкасьці вёскі.

Самаабкладаньне павінна праводзіцца выключна на дабравольных падставах. Ужываньне адміністрацыйнага націску на насельніцтва сурова забараняецца.

§ 45. Гэта Інструкцыя не пашыраецца на зборы, якія ўстанаўляюцца для сваіх членаў арганізацыямі, што маюць, паводле сваіх статутаў або палажэньняў аб іх, права абкладаць сваіх членаў зборамі на задавальненьне тых або іншых патрэб. Гэтыя зборы ўстанаўляюцца і атрыманыя сродкі выдаткоўваюцца ў парадку, прадугледжаным Статутам або Палажэньнем.

§ 46. З часу выданьня гэтай Інструкцыі траціць сваю сілу Інструкцыя НКФ БССР пра самаабкладаньне на 1929-30 г.

Народны Камісар Фінансаў БССР **В. Мікуліч.**

Начальнік Падатковага Кіраўніцтва НКФ БССР **Айзінсон.**

6 верасьня 1930 г.
г. Менск.

**Паст. 163. Пра абкладаньне прамысловым падаткам у 1930-31 г. па цьвёрдых стаўках 2 разраду некаторых промыслаў, дзе праца вытвараецца пры дапамозе аднаго наёмнага рабочага, але бяз удзелу дарослых членаў сям'і.**

На падставе п. 6 агульных заўваг да расьпісаньня асабовых промыслаў, якія абкладаюцца прамысловым падаткам з прыватных прадпрыемстваў і промыслаў (пастанова ЦВК і СНК СССР за 2 верасьня 1930 г.— „Известия ЦИК СССР“ за 9 верасьня г. г.), Народны Камісарыят Фінансаў БССР пастанаўляе:

Абкладаць прамысловым падаткам на 1930-31 г. па цьвёрдых стаўках 2 разраду наступныя промыслы, у якіх праца вытвараецца пры дапамозе аднаго наёмнага рабочага, але бяз удзелу дарослых членаў сям'і:

1) кавальства;
2) кацельная вытворчасьць;
3) вытворчасьць дуг і колаў.

12 верасьня 1930 г.
№ 15.

Народны Камісарыят Фінансаў БССР
**Бунін. Айзінсон.**

**Паст. 164. Аб прыцягненьні да прамысловага падатку ў процантных адносінах да звароту некаторых промыслаў, скупку тавараў, гандаль дрожджамі і гандаль некаторымі іншымі таварамі.**

На падставе п. 5 агульных заўваг да расьпісаньня асабовых промыслаў, якія абкладаюцца прамысловым падаткам з прыватных прадпрыемстваў і промыслаў (пастанова ЦВК і СНК СССР за 2 верасьня 1930 г.—„Известия ЦИК СССР" за 9 верасьня г. г.) і па ўзгадненьні з Вышэйшым Саветам Народнай Гаспадаркі і Народным Камісарыятам Гандлю БССР і Белсампрамсаюзам, Народны Камісарыят Фінансаў БССР пастанаўляе:

I. Прыцягнуць да прамысловага падатку ў процантных адносінах да звароту наступныя віды промыслаў:

**А) Промыслы, дзе праца вытвараецца пры дапамозе наёмнай рабочай сілы:**

1) зубатэхнічны;
2) выраб капэлюшаў і панчох для фэтравых абуткаў;
3) майстэрні фарбавыя і хэмічнай чысткі;
4) скарняжны, з чужога матарыялу;
5) выраб загатовак;
6) сукнавалкі;
7) выраб патакі;
8) выраб хэмічных прадуктаў, у тым ліку коламазі і дзёгцю;
9) выпрацоўка галянтарэйных вырабаў, за выключэньнем вырабаў з галаліта і цэлюлёіда;
10) выраб штучных мінэральных вод, квасу, безалкагольнага мёду і воцату;
11) воўначоскі;
12) выраб крухмалу;
13) фатаграфіі;
14) пасадачныя майстэрні;
15) выраб вымяральных прыладаў (мэтры, рулеткі, ватэрпасы, вагі і інш.);
16) майстэрні гадзіньнікаў;
17) трыкатажныя майстэрні;
18) гравэрна-штэмпельныя майстэрні;
19) хлебапякарні;
20) штампавальныя майстэрні;
21) выраб марожанага;
22) выраб мэталёвых ложкаў;
23) лесапілкі і цыркуляркі;
24) мылаварні;
25) сыраварні;
26) выпрацоўка цукерак і кандзіцерскіх вырабаў;

**Б) Ва ўсіх выпадках:**

1) выраб ягадных і пладовых він;
2) каўбасныя майстэрні;
3) выпрацоўка галянтарэйных вырабаў з цэлюлёіда і галаліта;
4) скарняжны, з свайго матарыялу;
5) аднапастаўныя і двухпастаўныя млыны (апроч ветракоў), крупарушкі і прасарушкі;
6) выпрацоўка мінэральнага масла;
7) шпігінарныя заводы;
8) смалакурні;

9) шчацінныя майстэрні;
10) ювэлірныя майстэрні.

II. Прыцягнуць да прамысловага падатку ў процантных адносінах да звароту скупку наступных тавараў ва ўсіх выпадках:
1) скурсыравіна і скуртавары;
2) збожжа, збожжавыя прадукты і фураж;
3) мануфактура;
4) скот і коні;
5) шчаціна і волас;
6) пушніна і фэтравая сыравіна;
7) лён і пянька;
8) воўна;
9) льнянае семя.

III. Прыцягнуць да прамысловага падатку ў цьвёрдых стаўках гандаль дрожджамі пры вытварэньні яго ва ўмовах, паказаных у пунктах 5, 14, 17 і 22 „Расьпісаньня прадпрыемстваў і промыслаў, абкладаемых па цьвёрдых стаўках“ (дадатак 1-ы да Палажэньня пра прамысловы падатак з прыватных прадпрыемстваў і промыслаў).

IV. Прыцягнуць да прамысловага падатку ў процантных адносінах да звароту гандаль ніжэйпаказанымі таварамі ва ўсіх выпадках:
1) адзеньнем гатовым (новым) і бялізнай;
2) аптэчнымі, фатаграфічнымі, хірургічнымі, фізычнымі і да таго падобнымі прыладамі;
3) швэйнымі і вязальнымі машынамі;
4) гумовымі вырабамі, апроч дробных (цацкі, соскі, і інш.)
5) новымі галаўнымі ўбраньнямі;
6) хутрамі і хутравымі вырабамі, пухам гагачым і лебядзіным;
7) музычнымі інструмантамі і прыладамі да іх;
8) мясам, салам і каўбаснымі вырабамі;
9) новай пасудай з алюмінія, медзі, нікеля, кубамі, самаварамі і інш.;
10) скурвырабамі;
11) трыкатажнымі вырабамі;
12) старажытнімі рэчамі.

V. Гэтую пастанаву ўвесьці ў дзейнасьць з 1 кастрычніка 1930 г.

Народны Камісарыят Фінансаў БССР—
**Бунін. Гельфар.**

15 верасьня 1930 г.
№ 16.




Адказны Рэдактар С. Лодысеў.

Галоўлітбел № 1573. Друк. Кіраўніцтва Спраў СНК і Экан. Нарады. Заказ № 52—4500.

